ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 38 (137) 13 - 19 кастрычніка 1995 г. Кошт 600 рублёў

У ЧЫІХ РУКАХ «ДЫШЛА»? - ст. 2.

КБМ ЦІ «МММ»? - ст. 3.

БЕЛАРУСЫ - САМЫЯ БАГАТЫЯ Ў СЬВЕЦЕ ЛЮДЗІ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## АПОШНІ ФАРПОСТ ХАЛОДНАЙ ВАЙНЫ

**Менавіта так у сьвеце характарызуюць Беларусь пасьля здарэньня з паветраным шарам. Пра гэта распавёў учора пад час сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі Гарадзенскага унівэрсітэта пасол ЗША сп.Ялавіц.**

Ён адзначыў таксама, што ўраду нашай краіны проста недаравальна не выкарыстоўваць найвыгоднейшае геаграфічнае становішча. Беларусь ужо сёньня магла б быць гандлёвым цэнтрам Усходняй Эўропы, аднак нічога для гэтага не зрабіла.

Вялікі патэнцыял, на думку пасла, мае і Гарадзеншчына: гэта і высокая кваліфікацыя мясцовых рабочых і сьпецыялістаў, і бязьмежныя перспэктывы разьвіцьця турызму і г.д. Рынкавыя рэформы ў краіне павінны рухацца побач з пабудовай сапраўды дэмакратычных інстытутаў улады, але сёньня абодва гэтыя працэсы ідуць надзвычай марудна і гэта вельмі засмучае Злучаныя Штаты і, у прыватнасьці, самога сп.Ялавіца. Бацька яго паходзіць з тэрыторыі былога Вялікага княства і таму пасол вельмі блізка ўспрымае падзеі, якія адбываюцца на Беларусі.

Напярэдадні сустрэчы ва ўнівэрсітэце, у сераду, сп.Ялавіц прысутнічаў на закладцы камня пад пабудову 174-кватэрнага дома для сем'яў вайскоўцаў, які будзе будавацца за амэрыканскія грошы, а таксама наведаў вытворчыя аб'яднаньні «Азот» і «Хімвалакно», майстэрні некалькіх мастакоў.

Наступны візіт пасла ЗША на Гарадзеншчыну чакаецца вясной.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ПЕРШАЯ РЫДЛЁЎКА ГРАЗІ

**Закладка падмурку жылога дома на 174 кватэры на Фолюшы праходзіла надзвычай пампезна, у прысутнасьці вялікай колькасьці высокіх гасьцей. У атмасьферы агульнага сьвята мала хто зьвярнуў увагу на стрыманасьць сапраўднага гаспадара ваеннага гарадка - каманьдзіра 28-га Армейскага корпусу генерала Фралова: генерал на цырымоніі адкрыцьця не сказаў ні слова і прастаяў усю імпрэзу з панурым выразам твару... У чым справа?**

Гэта растлумачыў адзін падпалкоўнік з вядомага ўсім гарадзенцам «штаба арміі»: «У корпусе сотні безкватэрных афіцэраў. Мы спадзяваліся, што хоць частка з іх атрымае жылую плошчу ў гэтым доме. На жаль...»

Так для каго будуецца дом у беларускім ваенным гарадку? НЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ!

На нашай тэрыторыі ўсё яшчэ знаходзіцца ядзерная зброя. Расея яе паступова вывозіць. З бомбамі і ракетамі праблем няма... Склаў акуратна дзе-небудзь пад плотам - і няхай сабе ляжаць, а абслугоўваючы персанал трэба кудысьці пасяліць. Таму расейцы сваю зброю вывозяць, а афіцэраў і прапаршчыкаў... пакідаюць нам!

Высокапастаўлены чын Міністэрства абароны паведаміў, што пасьлядоўных разваг для пасяленьня дэмабілізаванага персаналу стратэгічных войскаў была абрана менавіта Горадня: тут будзе лягчэй працаўладкаваць навасёлаў.

Што вы кажаце? Сёньня ў горадзе і без таго 4 тысячы 153 афіцыйных беспрацоўных, а ў канцы года іх будзе больш 6 тысяч!

А можа для чаго іншага? Горадня, у параўнаньні з іншымі абласнымі цэнтрамі, вызначаецца пэўным вальнадумствам. Ці не для таго сюды завозяць адстаўнікоў, каб стварыць супрацьвагу «праклятым нацыяналістам»?

Але вернемся на будаўнічую пляцоўку. Параўнаем будучы дом, напрыклад, з інтэрнатамі «Азота» ці тытунёвай фабрыкі: колькі ў іх жыве хімікаў і тытунёўшчыкаў? А ўсяго - нічога; у асноўным там жывуць, хто хоча, толькі не рабочыя родных прадпрыемстваў. Можна ўявіць, што і ў гэтым доме з цягам часу будзе сусьветны мурашнік. Ня кожны расейскі афіцэр - чалавек бяз роду і племені. Многія ведаюць і паважаюць свае расейскія карані, але на радзіме кватэры іх не чакаюць. Але выйсьце ёсьць: атрымаць кватэру ў Горадні і абмяняць, ці прадаць.

На цырымоніі на Фолюшы каманьдзір інжынернага корпусу арміі ЗША ў Эўропе палкоўнік Дж.Гейтс прадэманстраваў любімую звычку амэрыканскіх будаўнікоў - «першую рыдлёўку гразі».

Што гразі, дык дакладна.

**А.ЛАПЦЭВІЧ.**

## ХЛЕБ ЖАБРАЧЫ - ХЛЕБ САБАЧЫ

**прамова Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба на IV зьезьдзе ТБМ імя Францыска Скарыны**

Паважаны Старшыня Таварыства беларускай мовы, паважаныя ўдзельнікі зьезду, паважаныя ганаровыя госьці!

Як вам вядома, я большую частку свайго жыцьця карыстаўся рускай мовай. Але, калі мяне абралі старшынёй Вярхоўнага Савету РБ, вырашыў для сябе, што мова Старшыні Вярхоўнага Савету, як кіраўніка прадстаўнічай і заканадаўчай улады суверэннай краіны, па прыкладу вядучых нашых дзяржаўных дзеячаў павінна быць роднай - беларускай мовай. Я ўпэўнены, што на гэтай мове павінны размаўляць усе грамадзяне нашай рэспублікі, як гэта робіцца ва ўсіх краінах сьвету. На жаль гэтага пакуль што не адбылося, але я ўпэўнены, што павінна адбыцца, хаця і ня так хутка, як гэтага кожнаму з нас хочацца. Скажу шчыра, мне вельмі прыемна быць сёньня сярод вас, сярод шчырых і праведных адраджэнцаў беларушчыны, сапраўдных сьветачаў сучаснай беларускай нацыянальнай культуры.

Такія падзеі, як ваш зьезд, такія сустрэчы пакідаюць і памяць назаўсёды, і я ганаруся, што знаходжуся сёньня разам з вамі, што вы запрасілі мяне на гэтае сьвята. Таварыству беларускай мовы імя Францыска Скарыны ўсяго некалькі год. На вялікі жаль, сёньня мала ў нас такіх аб'яднаньняў і суполак, як ваша, якія б сумленна і праведна, мужна і адкрыта спавядалі свае мэты і задачы ў імя беларускага нацыянальнага адраджэньня. Думаю, не перабольшу, калі скажу, што асноўная мэта вашага таварыства па-сапраўднаму сьвятая, а заключаецца яна, як напісана ў Пасьведчаньні аб рэгістрацыі вашага аб'яднаньня, у аднаўленьні ў грамадстве стаўленьня да роднай мовы, як да нацыянальнай сьвятыні, пашырэньні ўжытку яе ва ўсіх сьферах жыцьця рэспублікі, усебаковым разьвіцьці і захаваньні яе чысьціні і самабытнасьці, забесьпячэньня ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы. Такога таварыства, як ваша, наколькі мне вядома, акрамя Украіны, няма больш ні ў адной з краін - былых рэспублік Савецкага Саюзу. І калі зыходзіць з логікі здаровага сэнсу, гэта і не натуральна.

Сапраўды, дзе ў якой яшчэ дзяржаве ёсьць патрэба ў абароне роднай мовы, дзяржаўнай мовы? Цывілізаваны сьвет пакуль да гэтага яшчэ не дадумаўся. А вось нам, беларусам, абараняць, прапагандаваць, распаўсюджваць роднае слова ня тое што трэба, а проста, на мой погляд, і неабходна, хаця ўсім павінна быць зразумела: ёсьць мова -ёсьць нацыя, ёсьць краіна; няма мовы - няма нацыі, няма краіны. Такія мае асабістыя падыходы да гэтага вельмі важнага дзяржаўнага пытаньня, і сказаў я гэта не таму, што супраць Таварыства беларускай мовы, а таму, што ўпэўнены - у нашай складанай сітуацыі гэта ёсьць адно з выйсьцяў.

Я асабіста не сумняваюся ў тым, што на нашым зьезьдзе атрымаецца шчырая, глыбокая і зацікаўленая размова і пойдзе гэтая размова шмат па якіх накірунках, бо вымагае таго час, тая рэчаіснасьць, у якой мы апынуліся і вымушаны жыць, дзейнічаць сёньня. Я не перабольшу, калі скажу, што жывем мы ў час трывогі, трывогі за суверэнітэт і незалежнасьць Рэспублікі Беларусь, трывогі за нашае нацыянальнае і культурнае адраджэньне, трывогі за ўсё беларускае. На вялікі жаль, ёсьць і іншыя трывогі, і наш з вамі сьвяты абавязак супрацьстаяць ім, не дазволіць пэўным сілам вярнуць Беларусь у таталітарны рэжым. Мы павінны быць вытрыманымі і мужнымі ў сваіх дзеяньнях, перакананымі, што робім добрую, патрэбную справу. Разам з тым, я добра ведаю ідэалы незалежнасьці рэспублікі, ідэалы адраджэньня нацыі сёньня дарагія большасьці нашага народа. І для таго, каб пераканацца ў гэтым, ня трэба праводзіць рэферэндумы, заказныя апытаньні і анкецíраваньні, трэба проста пабываць сярод простых людзей, пацікавіцца, чым, як, на якія сродкі, у імя каго жыве наш чалавек.

Я цьвёрда перакананы ў тым, што матэрыяльныя нястачы, недахопы сродкаў на прыстойнае чалавечае існаваньне, а гэта мы маем зараз скрозь і ўсюды, не прымусяць наш народ здаць суверэнітэт і пайсьці да кагосьці па міластыню, бо нездарма кажуць у нас на Беларусі, што «хлеб жабрачы - хлеб сабачы». Наша родная мова, як і ў зусім недалёкія часы зноў выцясьняецца са штодзённага ўжытку, выцясьняецца на беларускім радыё і тэлебачаньні, у іншых сродках масавай інфармацыі. Яшчэ больш трывожна тое, што спыняецца адраджэньне нашай нацыянальнай школы. Дзе гвалтам, а дзе з дапамогай ашуканства ідзе русіфікацыя ня толькі школ, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў, але і устаноў і арганізацый. Сумна ўсё гэта і трывожна, і давайце сёньня разам падумаем, як гэты працэс спыніць.

Я не хачу сёньняшнім выступленьнем даць падставы гаварыць пра мяне, як пра прапаведніка русафобіі. Я зусім ня супраць прыгожай рускай мовы, але кожная павінна займаць сваё месца ў нашай краіне. Таму давайце працаваць. Праца, якая чакае нас усіх наперадзе, запатрабуе вялікіх сіл, энэргіі, сапраўднай мужнасьці, але іншага выйсьця няма. Наш народ, яго вялікасьць беларуса трэба ў прамым сэньсе ратаваць і найперш праз абарону роднай беларускай мовы. Я выдатна разумею, шлях да таго, калі беларускае слова сагрэе душы і сэрцы нашых людзей, яшчэ далёкі, але гэта наш агульны шлях. Пойдзем разам. Я, як чалавек, як грамадзянін, як дэпутат Вярхоўнага Савету цяперашняга 12-га скліканьня і наступнага, ужо 13-га, гатовы ісьці з вамі. Я веру ў сваю Айчыну, я веру ў яе сьветлую будучыню.

**( Справаздачу з IV зьезду ТБМ імя Ф.Скарыны чытайце на 4-ай стар.)**

## НА ІЛЬГОТАХ НЕ РАЗЖЫВЕШСЯ

**Усяго на 6-7 працэнтаў чакаецца прырост грашовай выручкі Лідзкага аўтобусна-таксаматорнага парку ў сувязі з адменай ці частковым скарачэньнем ільгот на праезд. Гэта кропля ў моры страт гаспадаркі і ніякага значэньня для папраўкі яе эканамічнага стану ня мае.**

Між тым Указ Прэзідэнта пра адмену ільгот на праезд пачынае паціху карэктавацца. Так, днямі ў Ліду паступіла папера з Менску, дзе сказана, што за дэпутатамі Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь захоўваецца права бясплатнага праезду ў аўтобусах гарадзкога і міжгароднага маршрутаў.

Пачакаем паперу з Горадні, ды свае Лідзкія начальнікі пра сябе не забудуцца і выйдзе, што ільгот пазбавілі толькі пеньсіянераў.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## БЕЛАРУСКІ ЎРАД ПЕРАЙМАЕ ВОПЫТ РЭКЕТУ

**Са зьдзіўленьнем даведаўшыся (а не пралічыўшы ў свой час чамусьці наперад), якія вялізныя страты панесла нашая эканоміка ў выніку ўводу ў верасьні новых мытных падаткаў, беларускі ўрад знайшоў, здаецца, сродак частковай кампенсацыі гэтых страт. Магчыма, ужо ў бліжэйшы час будзе ўведзены абавязковы канвой грузаў, якія будуць перавозіцца праз нашую тэрыторыю.**

Прымусовая ахова, зразумела, будзе каштаваць некалькіх сотняў долараў з кожнага кліента. Сёньня такія паслугі ахвотна «прапануе» рэкет. Дзяржава, відаць, палічыла яго досьвед вартым пераймання. Па некаторых дадзеных дзяржава ўжо закупіла 300 аўтамабіляў «Вольва», якія будуць выкарыстоўвацца дзеля такога роду паслугі.

**В.Л.**

## ВЯЛІКАЯ ЧАСТКА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ - «ШКУРНІКІ» І ШТРЭЙКБРЭХЕРЫ

**11 кастрычніка ў будынку банку «Маналіт» адбылася сустрэча гарадзенскіх прадпрымальнікаў з прэзідэнтам Беларускага саюзу прадпрымальнікаў Уладзімірам Карагіным.**

Візіт кіраўніка гэтай даволі ўплывовай арганізацыі, якая налічвае 700 сапраўдных членаў і больш 16 тысячаў асацыяваных вытворчых, фінансава-інвестыцыйных і гандлёвых фірмаў усіх форм уласнасьці, меў на мэце актывізацыю дзейнасьці Саюзу на Гарадзеншчыне напярэдадні IV Асамблеі дзелавых колаў Беларусі, якая пачнецца 1 лістапада. Неабходнасьць гэтага выцякае з рэзкага пагаршэньня становішча прадпрымальніцтва ў краіне. Бізнэсмэны сёньня патрэбныя дзяржаве толькі як дойныя каровы. Імкліва павялічваецца колькасьць ахвяр з ліку прадпрымальнікаў у выніку падману з боку айчынных і замежных махляроў. Няма ніводнага банку, які не «праляцеў» бы на мільёны долараў. Надзвычай кепска справы ідуць з прыцягненьнем у Беларусь замежных інвестыцый. У краіне відавочны крызіс усіх галін улады, асабліва заканадаўчай: «Ёсьць сотня баязьліўцаў, якія спалохаліся тэлефоннага званка і зрываюць раз за разам працу парламанту...»

Яшчэ больш рэзка сп.Карагін выказаўся адносна прадпрымальнікаў, якія не супрацоўнічаюць са структурамі Саюзу. Стаў прадпрымальнікам - увайдзі ў Саюз... Хто адсіжваецца, той «шкурнік» і штрэйкбрэхер.

Цікавыя думкі прагучалі з вуснаў сп.Карагіна і ў дачыненьні царквы: «У Польшчы касьцёл прыцягнуў у эканоміку 700 мільёнаў долараў, ксяндзы прапагандавалі неабходнасьць рынычных рэформаў, а ў нас Уладыка прыходзіць да мяне з працягнутай рукой...»

Напрыканцы сустрэчы сп.Карагін яшчэ раз падкрэсьліў, што абараняць свае інтарэсы прадпрымальнікі павінны самі і таму ўжо ў бліжэйшы час у кожнай вобласьці павінны быць створаны жыцьцяздольныя філіі, якія налічвалі б 5-6 тысячаў чалавек.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ПРАДСТАЎНІК БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ СОРАСА НАВЕДАЎ ГОРАДНЮ

**11 верасьня ў Горадні знаходзіўся намесьнік Выканаўчага дырэктара Беларускага фонду Сораса Ігар Таўгень.**

Ён наведаў рэдакцыю «Пагоні», а затым у памяшканьні культурна-асьветніцкага фонду «Бацькаўшчына» сустрэўся з прадстаўнікамі гарадзенскіх грамадзкіх арганізацый дэмакратычнага напрамку, мясцовымі членамі Фонду, навукоўцамі, журналістамі. Размова на сустрэчы ішла пра неабходнасьць пашырэньня дзейнасьці Фонду на заходнебеларускі рэгіён (сёньня філіі існуюць толькі ў Гомелі і Віцебску), пра перспэктывы супрацоўніцтва мясцовых грамадзкіх арганізацый з Фондам у галінах адукацыі, культуры, падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі, аховы здароўя, навукі і г.д.

Ня выключана, што праз некаторы час у Горадні будзе створана філія Беларускага фонду Сораса.

**В.М.**

## ЗУСІМ СТРАХ ЗГУБІЎ!

**Аўтарам непрыемнага сюрпрызу, у выніку якога чытачы і падпісчыкі «Белорусской деловой газеты», «Имя», «Народнай волі» не атрымалі на гэтым тыдні ўлюбёных выданьняў, зьяўляецца кіраўнік Міністэрства Праўды з Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Замяталін.**

Ва ўрадавай тэлеграме ад 10 кастрычніка, якая падпісаная новаспечаным (па сумяшчальніцтву) намесьнікам галавы Адміністрацыі Прэзідэнта, кіраўнікам усіх аблвыканкамаў (!!!) паведамляецца, што «в связи с участившимися фактами нарушений различными изданиями Закона «О печати...», по которым сделаны экспертные заключения Минюста («НВ», «БДГ», «Имя»)... производственные договора между гостипографиями и ...негосударственными изданиями будут заключаться после согласования с Главным управлением общественно-политической информации Администрации Президента...»

Што ж, спадар Замяталін выкідваў і не такія конікі (успомнім хаця б лукашэнкаўскую сьцюардэсу). Шкада толькі, што й дагэтуль ён яшчэ не атрымаў па заслугах.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

 







## БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ФІНАНСАВАЦЬ ДАМОВУ АБ КАЛЕКТЫЎНАЙ БЯСЬПЕЦЫ

**Як стала вядома, на сумесным паседжаньні міністраў замежных спраў, прадстаўнікоў міністэрстваў абароны СНД, а таксама прадстаўнікоў памежнай службы Расеі, якое адбылося 3 кастрычніка ў Маскве, быў узгоднены парадак фінансаваньня Саветам калектыўнай бясьпекі і яго працоўных ворганаў.**

Вядома, што 50% выдаткаў бярэ на сябе Расея, на ўсіх жа астатніх удзельнікаў дамовы аб Калектыўнай бясьпецы (ДКБ) выпадае па 6,25%. Нагадаем, што першапачаткова планавалася роўнае фінансаваньне дагавору ўсімі краінамі-удзельніцамі. Тэма фінансаваньня ДКБ першапачаткова абмяркоўвалася на паседжаньні Міждзяржаўнага эканамічнага камітэту (МЭК). Беларусь рэпрэзентаваў віцэ-прэм'ер М.Мясьнікові. На паседжаньні 3 кастрычніка доля беларускага ўдзелу была пацьверджана.

Гэту падзею пракаментаваў экс-сьпікер беларускага парламанту Станіслаў Шушкевіч, які ў свой час падпісаў ДКБ. Ён заявіў: «Падпісаць ДКБ мяне абавязаў парламант, аднак у Канстытуцыі Беларусі закладзена норма, згодна якой уступленьне ў блокі і саюзы павінна прайсьці ратыфікацыю ў парламаньце. Механізм далучэньня да ДБК дастаткова заблытаны, але ратыфікацыі дагавору ў парламаньце не было».

Тым ня менш, у Міністэрстве замежных спраў Беларусі паведамілі, што з моманту паступленьня ў дэпазітарый ДКБ, падпісанага спадаром Шушкевічам дакуманта аб далучэньні да дагавору, Беларусь лічыцца паўнапраўнай ўдзельніцай дагавору.

**СІМ**

## ЧЫМ БУДЗЕ НАКРЫТЫ «КРУГЛЫ СТОЛ»?

**Якія вынікі можа прынесьці ініцыяваны прэзідэнтам «круглы стол» з удзелам прадстаўнікоў усіх палітычных партый і арганізацый нашай краіны? Асабіста я цьвёрда ўпэўнены, што станоўчых вынікаў чакаць не прыходзіцца.**

Мэтай вядзеньня любых перамоваў зьяўляецца дасягненьне пэўных пагадненьняў, якія ў ідэале павінны быць карыснымі для ўсіх зацікаўленых бакоў. Што сёньня, напярэдадні выбараў, будзе галоўным чынам цікавіць патэнцыяльных удзельнікаў «круглага стала»? УЛАДА.

Шэсьць гадоў таму аналагічны «круглы стол» ладзіўся ў суседняй Польшчы, калі правячы камуністычны ўрад згадзіўся пайсьці на перамовы з апазіцыяй з колаў «Салідарнасьці». Галоўным вынікам сустрэчы стала пагадненьне, згодна з якім бакі «падзяліліся» ўладай (фармулёўка даволі спрошчаная, але трапна вызначае сэнс пагадненьняў). З гэтага часу ў Польшчы пачаліся хуткія палітычныя, а таксама эканамічныя і культурныя перамены: пачалася пабудова сапраўды дэмакратычных інстытутаў улады, рынкавыя рэформы і г.д. Істотна зьмяніўся вобраз мысьленьня палякаў: атрымаўшы магчымасьць вольнага выезду ва ўсе краіны сьвету, гандлю ня толькі ў суседніх краінах, а нават на Далёкім Усходзе і г.д., магчымасьць больш-менш легальна працаваць у краінах Захаду, людзі змаглі параўноўваць умовы жыцьця, назіраць за працай розных дзяржаўных і недзяржаўных установаў іншых краін, вучыцца на іх досьведзе. Адным словам, вынікі польскага дыялогу ўлады з апазіцыяй далі свой плён. Сёньня Польшчу ў Эўропе ўспрымаюць як паўнавартасную краіну, як роўнага партнёра.

Ці можна чакаць такіх вынікаў ад прэзідэнцкага «круглага стала»? Ці можна чакаць ад прэзідэнцкай адміністрацыі, якая з першага дня існаваньня ўсімі сродкамі займаецца канцэнтрацыяй ўсіх галін улады ў сваіх руках, гатоўнасьці да падзелу «сьфераў рэальнага ўплыву»? Асабіста я наконт гэтага асаблівых ілюзій ня маю, бо наш прэзідэнт, напэўна, таксама ведае пра тое, што польскія камуністы, згадзіўшыся на раўнапраўныя перамовы з апазіцыяй у 1989 годзе, ахвяравалі сваімі «цёплымі» крэсламі. Улічваючы заявы Лукашэнкі пра «всерьёз и надолго», чакаць ад яго такой ахвяры не прыходзіцца, а гэта значыць, што ўдзельнікі «круглага стала» будуць залежаць ад прэзідэнта так, як вязень, прыгавораны да сьмерці, ад карнікаў - могуць адсекчы галаву сёньня, а могуць даць адтэрміноўку.

**В.М.**

## КАНЕЦ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ. СВАІХ ЗДАЮЦЬ

**Небывалая падзея здарылася на сесіі Лідзкага раённага Савету дэпутатаў. Дэпутаты далі згоду на звальненьне з пасады свайго калегі - кіраўніка Мінойтаўскай міжрайаграпрамтэхнікі спадара У.Савашынскага.**

«Пагоня» ўжо пісала пра канфлікт у Мінойтах, дзе сітуацыя паміж кіраўніком і рабочымі настолькі абвастрылася, што раз-пораз выбухала то сходамі, то страйкамі, то пікетамі. Справа даходзіла да мясцовага рэферэндуму.

Нялёгка далося дэпутатам рашэньне. Але 24 галасамі з 34 Савашынскага «здалі». Хто наступны?

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

## ДЗЕСЯЦЬ МІЛЬЁНАЎ ЗА ХЛУСЬНЮ

**28 верасьня ў Ваўкавыску адбыўся суд па іску аб абароне гонару і годнасьці дэпутата ВС М.Аксаміта да другога сакратара гарадзкога камітэту камуністычнай партыі В.Кніповіча, які працуе ў Ваўкавыску начальнікам грамадзянскай абароны. У апошнім нумары мясцовай газеты перад травеньскімі выбарамі ён напісаў хлусьню пра дзейнасьць дэпутата М.Аксаміта.**

Чаму другі сакратар пайшоў на хлусьню? Ды таму, што першы сакратар ваўкавыскіх камуністаў таксама балатаваўся ў Вярхоўны Савет. А стыль і метады камуністаў не зьмяніліся...

Як бы там не было, па рашэньню суда Кніповіч абавязаны на працягу месяца папрасіць прабачэньне ў дэпутата М.Аксаміта праз мясцовую газету і выплаціць 10 млн. рублёў, якія дэпутат плануе пералічыць на рахунак мясцовай школы.

**Ул.інф.**

## У ЧЫІХ РУКАХ «ДЫШЛА»?

**У якой яшчэ краіне прэзідэнт, парушыўшы шмат разоў закон, а гэта значыць і правы грамадзянаў, можа заставацца на сваім месцы і, больш таго, працягваць рабіць тое, што яму хочацца, не зважаючы ані на якія абмежаваньні?**

**7 верасьня 1995 г. Юрыдычны аддзел Вярхоўнага Савету Беларусі распаўсюдзіў сьпіс з пералікам 22-х указаў прэзідэнта, парушаючых заканадаўства. Да гэтага сьпісу можна сьмела дадаць і выдадзены нядаўна ўказ N 383 аб скасаваньні ў гарадах раённых Саветаў народных дэпутатаў і іх ворганаў.**

**За каментарам да прэзідэнцкага ўказа «Пагоня» зьвярнулася ў Беларускі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі. Чаму менавіта сюды? Зараз зразумееце...**

**Андрэй ЗАВАДЗКІ, каардынатар праграмаў інфармацыйна-адукацыйнага цэнтра праблем самакіраваньня пры фоньдзе імя Л.Сапегі:**

- Указ прэзідэнта N 383, як і цэлы шэраг ранейшых яго ўказаў, знаходзіцца ў відавочнай неадпаведнасьці дзейнаму заканадаўству. У прыватнасьці, арт.30 Закона аб Прэзідэньце, які не дазваляе прэзідэнту прымаць нарматыўныя акты, якія супярэчаць законам і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Указ N 383 у той ці іншай ступені парушае палажэньні Законаў «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь» і іншых заканадаўчых актаў, дзе існуе палажэньне аб раённых Саветах дэпутатаў у гарадах, як элеменьце першаснага ўзроўню мясцовых ворганаў улады. Указ супярэчыць рашэньню Канстытуцыйнага суда, які канкрэтна пастанавіў, што нельга нішчыць першасны ўзровень Саветаў, як прадстаўнічы ворган народу Беларусі.

**- Але ж у свой час у сваім праекце рэформы ворганаў мясцовага кіраваньня і самакіраваньня Фонд імя Л.Сапегі таксама прапаноўваў скасаваць раённыя Саветы ў гарадах...**

- Прапановы Фонду Сапегі аб рэфармаваньні самакіраваньня ў Беларусі прынцыпова адрозьніваюцца ад тых захадаў, якія робіць прэзідэнт. Скасаваньне раённых Саветаў у гарадах, на думку экспертаў Фонду Сапегі, павінна быць зьдзейсьнена ў межах комплекснай праграмы рэфармаваньня мясцовых ворганаў улады. Першым на гэтым шляху павінна адбыцца разьдзяленьне ўсіх уладных структур на дзяржаўныя і мясцовыя. Гэта прадугледжвае заканадаўчае замацаваньне пэўных кампетэнцый і функцый. Вырашэньне пытаньняў маёмасьці, бюджэту, падаткаў, набліжэньне ўлады да народу і да мясцовых праблем.

У выпадку з Указам Прэзідэнта N 383 справа вырашаецца зусім інакш. Размова тут ідзе толькі пра павелічэньне ланцужка Прэзідэнцкай «вертыкалі» ўвядзеньнем у яе таго астатняга звяна, якое засталося па-за непасрэдным прэзідэнцкім уплывам. Падобнае «рэфармаваньне» вядзе не да пашырэньня мясцовай дэмакратыі, мясцовай ініцыятывы, а наадварот, да іх звужэньня, вядзе, з аднаго боку, да бескантрольнасьці дзейнасьці мясцовай адміністрацыі, якая прызначаецца зьверху, а з другога боку, да безабароннасьці гэтай адміністрацыі перад любым уціскам зьверху, любым самадурствам вышэйшай улады.

Пры такім стане дзейнасьць мясцовай адміністрацыі не скіравана на выкананьне задач, вырашаючых мясцовыя праблемы, а жорстка зьвязана з усёй дзяржаўнай машынай і скіравана на выкананьне жаданьняў вышэйстаячых чыноўнікаў. Сістэма прынцыпова нестабільная, бо пры зьмене чыноўніка на любым паверсе ўлады ўсе ніжэйшыя паверхі зьмяняюцца аўтаматычна, няглядзячы на прафесіяналізм, па прынцыпу «свой - ня свой».

* * *

Што ж, калі лічыць, што закон сапраўды, як «дышла», то прэзідэнта можна зразумець. Чым менш людзей будзе мець магчымасьць гэтае «дышла» паварочваць, тым большай будзе яго ўлада. Ды толькі даўно ўжо вядома, што нельга абняць неабдымнае. Нават калі вельмі хочацца...

**Вітаўт РУДНІК.**

## КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ НЕ ЗЬБІРАЕЦЦА ВЫКОНВАЦЬ ПАСТАНОВЫ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА

**9 кастрычніка адбылася прэс-канферэнцыя прэм'ер-міністра М.Чыгіра. На ёй было паведамлена, што рашэньне Канстытуцыйнага суда (КС) аб прызнаньні прэзідэнцкага ўказу па бюджэту нелігітымным Кабінет Міністраў выконваць не зьбіраецца. Матывуючы такі крок ураду, М.Чыгір заявіў, што ненармальнасьць сітуацыі ў тым, што яшчэ ня высьветлена легітымнасьць парламанту (1І кастрычніка КС пацьвердзіў легітымнасьць Вярхоўнага Савету. - Рэд.), а значыць усе яго рашэньні пад пытаньнем.**

Віцэ-прэм'ер С.Лінг, які прадстаўляў на паседжаньні Канстытуцыйнага суда прэзідэнцкі бок, паведаміў, што ў выпадку, калі б прэзідэнцкі ўказ ня быў падпісаны, суддзі КС за адсутнасьцю сродкаў не атрымалі бы зарплаты. Акрамя таго, спадар Лінг па-ранейшаму лічыць, што ўказ не мяняў бюджэт, а толькі ўносіў у яго карэктывы.

М.Чыгір паінфармаваў журналістаў, што 7-8 кастрычніка ў Варшаве на сустрэчы краін-удзельніц Цэнтральна-Эўрапейскай ініцыятывы было прынята прынцыповае рашэньне аб уключэньні Беларусі ў гэтую арганізацыю. Спадару Чыгіру было цяжка пракаментаваць перастаноўкі ў Кабінеце Міністраў і Адміністрацыі прэзідэнта. Ён спаслаўся на тое, што ніякіх дакумантаў ён ня бачыў. Аднак прэм'ер-міністр заўважыў: «Перастаноўкі ў Адміністрацыі і Кабінеце Міністраў дазволяць гэтым структурам стаць бліжэй да праблемаў народу». М.Чыгір паведаміў, што на ўзнаўленьне выкананьня Беларусьсю дамоўных абавязкаў па АБСЭ урадам выдзелена 2,5 мільярда рублёў, а таксама 2,5 мільярда рублёў на папаўненьне абаротных сродкаў канверсійных прадпрыемстваў.

Каментуючы фінансаваньне другога туру парламанцкіх выбараў, Міхаіл Чыгір сказаў, што неабходныя сродкі паступілі на рахунак Цэнтрвыбаркаму і ніякіх праблемаў з фінансаваньнем выбараў быць не павінна. На прэс-канферэнцыі было таксама заяўлена, што падчас візіту прэзідэнта Беларусі ў Расею была дасягнута прынцыповая дамоўленасьць аб тым, што ў выпадку павелічэньня запазычанасьці Беларусі за нафту і газ, Расея ня будзе спыняць іх пастаўкі ў рэспубліку.

**СІМ**

## ПАЎНАМОЦТВЫ ДЭПУТАТАЎ СКАНЧАЮЦЦА, ПРАБЛЕМЫ - ЗАСТАЮЦЦА

**Адбылася чарговая і, напэўна, апошняя сесія Гарадзенскага гарадзкога Савету дэпутатаў дваццаць першага скліканьня. Адно з асноўных пытаньняў, якое разглядалася на ёй, датычылася выкананьня праграмы «Здароўе» і сітуацыі, якая склалася ў лячэбна-прафілактычных установах горада.**

Праграма «Здароўе» была прынята ў 1988 годзе і, як адзначыў старшыня пастаяннай дэпутацкай камісіі па ахове здароўя, фізкультуры і спорту П.Бараноўскі, яна ў свой час адыграла пазітыўную ролю. Але зараз яна не адпавядае сёньняшнім умовам, і трэба ўнесьці зьмяненьні па ўсіх раздзелах. Дэпутата падтрымаў загадчык аддзела аховы здароўя Б.Мікалута. Ён паведаміў, што ў год прыняцьця праграмы «Здароўе» на ахову здароўя было выдзелена 10,3 мільёна рублёў ці 26,4% ад гарадзкога бюджэту, а сёлета - 86 мільярдаў ці 25,15% ад бюджэту горада. У дадзеным выпадку назіраецца парадаксальная сітуацыя, калі пры павелічэньні колькасьці ложкаў у стацыянарах і росьце колькасьці лячэбных установаў зьмяншаецца выдзяленьне сродкаў на іх утрыманьне. Спадар Мікалута адзначыў: «Карміць хворага стала дарагім задавальненьнем. ...У наш час не стаіць пытаньне, дзе купіць лекі, а за што іх купіць». Па яго словах, кошт медыкаментаў павялічыўся на столькі, што, каб задаволіць патрэбы лячэбных установаў, у іх трэба выдаткаваць 50-70% бюджэта гэтых установаў. Таму і распаўсюджана практыка набыцьця лекаў хворымі. І мала таго, што на ахову здароўя выдзяляецца мала сродкаў, дык яны даходзяць ня ў поўным аб'ёме. Таму, як лічыць Б.Мікалута, «гарадзкая сістэма аховы здароўя мае патрэбу не ў рэфармаваньні, а ў своечасовым і поўным фінансаваньні».

Дэпутат жа Ул.Цыркуноў зьвярнуў увагу на той факт, што рэфармаваньне ў сістэме аховы здароўя, ад якога можна чакаць зрухаў у лепшы бок, не пачыналася. Ён выказаў шкадаваньне, што ў распрацаванай летась антыкрызіснай праграме не закранута пытаньне аховы здароўя.

Медыкі расказалі пра свае клопаты. Так, напрыклад, галоўны лекар ТМА-1 Курбаеў паведаміў, што няма дэзінфікуючых сродкаў, лекаў, нават для неадкладнай дапамогі, школьныя медпункты перасталі забесьпячацца сьпіртам, перавязачнымі матэрыяламі. Спынена прышчэпная работа сярод дзяцей з-за адсутнасьці аднаразовых шпрыцаў. Адзінае нейрахірургічнае аддзяленьне ў вобласьці хутка ня зможа аказваць аператыўную дапамогу ў поўным аб'ёме, бо інструментарый непрыдатны для ўжываньня. «Ускрываем чарапы, сьпінны мозг іржавымі, тупымі інструмантамі», - сказаў Курбаеў. Зразумела, пачуўшы такое, дэпутаты прагаласавалі за рашэньне, якое ў прыватнасьці абавязвае гарвыканкам забясьпечыць першачарговае фінансаваньне ўстаноў аховы здароўя і іх бесперапыннае і без папярэдняй аплаты забесьпячэньне жыцьцёваважнымі прэпаратамі і інструмантамі з боку аб'яднаньняў «Фармацыя» і «Белмедтэхніка». Добра, калі б гэта ўсё не засталося толькі дэкларацыяй, бо інфармацыя загадчыка фінаддзела А.Місюлі наводзіць менавіта на такую думку.

За 8 месяцаў у бюджэт паступіла 154,1 мільярда рублёў ці 51% ад плану, а выдаткі склалі 202 мільярды. Запазычанасьць бюджэту перад прадпрыемствамі і арганізацыямі Горадні на дзень правядзеньня сесіі склала 19,5 мільярда рублёў. Ды і адкуль будуць грошы, калі 67% прадпрыемстваў зьнізілі аб'ёмы вытворчасьці. Шэсьць буйных прадпрыемстваў у горадзе зьяўляюцца стратнымі. Увогуле, выкананьне бюджэту знаходзіцца пад пагрозай зрыву.

А калі не хапае грошай на медыцыну, адукацыю, пакрыцьцё страт жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, транспартнікаў, што казаць пра культуру? Як адзначыў намесьнік старшыні гарвыканкаму А.Мілінкевіч, выступаючы з інфармацыяй аб ходзе рэалізацыі праграмы «Спадчына», пакуль здабыткі мастацкай творчасьці трымаюцца на энтузіязме. У горадзе адбылося скарачэньне 16 клубных установаў, двухсот работнікаў культуры, значная колькасьць людзей пераведзена на палову стаўкі. Праўда, толькі за два апошнія гады ў горадзе шмат зроблена ў сьферы выдавецкай дзейнасьці, музейнай справы, адкрыты шэраг мемарыяльных дошак, прадухілена скарачэньне калектываў мастацкай самадзейнасьці. Але шмат разьдзелаў праграмы не выкананы, і зноў жа з-за адсутнасьці сродкаў, і тэрмін іх рэалізацыі працягнуты да 2000 года. Некаторыя, напрыклад стварыць Дом-музей А.Пушкова; правесьці навукова-дасьледчыя работы і распрацаваць праграму рэанімацыі горада, увогуле будуць выключаныя з праграмы.

На сесіі быў заслуханы таксама выступ намесьніка старшыні гарвыканкаму В.Лаўцэль. Ён датычыўся выкананьня рашэньня гарсавету аб мерапрыемствах па выкарыстаньню другасных рэсурсаў і адыходаў вытворчасьці. Пэўныя захады ў гэтым кірунку ўжо зроблены. Арганізаваны прыём бутэлек з цёмназялёнага шкла на бой па 100 рублёў за штуку ў некалькіх крамах. І ўжо 26,5 тон гэтай сыравіны здадзена на шклозавод. ЖЭСы пачалі збор палімерных адыходаў. Праўда, завод «Белдругпалімер» не атрымаў яшчэ ніводнай тоны. Але, відаць, людзі нічога пра гэта пакуль ня ведаюць, а можа проста не жадаюць мець дадатковых клопатаў.

У парадку дня сесіі было таксама пытаньне «Аб арганізацыі гандлю на рынках горада». У рашэньні гарсавету планавалася адзначыць, што кіраўніцтва Аблспажыўсаюзу, якое валодае рынкамі, не прымае належных захадаў па ўпарадкаваньню гандлю на іх. Сістэматычна парушаюцца санітарна-эпідэміялагічныя нормы гандлю, не выконваюцца асноўныя правілы гандлю. І ў мэтах стварэньня ўмоў для нармальнай работы гарадзкіх рынкаў трэба выйсьці з хадатайніцтвам у Кабінет Міністраў аб перадачы рынкаў Горадні ў камунальную ўласнасьць горада. Праўда, дэпутаты выказалі шмат прэтэнзій старшыні аблспажыўсаюзу І.Калмычкову, нават параілі зьезьдзіць у Менск ці які-небудзь польскі горад і паглядзець, як там арганізаваны гандаль, але ўсе засталіся пры сваім. Адзінае, адзначана, што работу рынкаў неабходна палепшыць. Відаць, дэпутаты пажадалі пакінуць вырашэньне праблемы тым, хто прыйдзе на іх месца.

**А.ГЕЛАЎ.**

 





# ГРАМАДЗТВА

## ЗЬМІРЫЦЦА З ПАДМАНАМ?

Дзяржава нашая неаднаразова падманвала сваіх грамадзян. Прыгадайце тут паўлаўска-гарбачоўскія махінацыі з буйнымі купюрамі, дэнамінацыю «зайцоў», штомесячныя павышэньні цэнаў і г.д. Таму ня дзіўна, што калі зьявілася магчымасьць будаваць прыватны сектар, многія людзі яе скарысталі. Баючыся, што дзяржава можа чарговы раз падмануць, яны ўклалі сродкі ў будаўніцтва і не прагадалі, няхай сабе многім гэта каштавала крывавага поту. Знайшліся, і ня мала, такія людзі, якія не будавалі хаты, гаражы, а проста ўклалі грошы ў будматэрыялы, спадзеючыся атрымаць своеасаблівую «цьвёрдую валюту» і пазьбегнуць магчымых стратаў ад эканамічнай палітыкі ўладаў.

Выпісаць будматэрыялы было цяжка: чэргі, патрэбныя людзі, патрэбнае ў руках і г.д. Але выпісаць і аплаціць заказ было паловай справы. Значна цяжэй было яго атрымаць. З самай раніцы на тэрыторыі КБМ выстройваліся чэргі машын з самых розных рэгіёнаў. У першую чаргу загружалі «Центровывоз», пасьля «Дзяржзаказ» і ў апошнюю чаргу - прыватнікаў. Калі чарга і даходзіла да іх, то далёка не заўсёды можна было забраць увесь заказаны матэрыял- «Зайдзіце заўтра!» Вось і пазаставаліся ў людзей на прадпрыемстве па дзьве, тры пліты, а то і больш. Здаецца, дробязь? А што, калі такіх людзей пару сотняў? І грошы, заплочаныя імі, сёньня ператварыліся ў пыл? Атрымоўваецца, камбінат у людзей грошы забраў, праеў, прапукаў, а разьлічвацца ня хоча. Між тым, пазыкі ва ўсім сьвеце прынята вяртаць!

Што зараз, дапрыкладу, рабіць чалавеку, які пазычыў у суседа недаатрыманую на камбінаце пліту, каб скончыць будоўлю, а зараз ня можа яе аддаць, бо, па-першае, камбінат па-ранейшаму яе не вяртае, а па-другое, па новых коштах купіць яе не па кішэні, бо размова ідзе ўжо пра мільёны?

Зьмірыцца з падманам? Дзякаваць, што за паветра яшчэ не бяруць грошай?

**Р.РЫПА.**

# КБМ ЦІ «МММ»?

**Вясной гэтага года быў арыштаваны, а затым адхілены ад займаемай пасады дырэктар камбіната будаўнічых матэрыялаў сп.Закрэўскі, абвінавачаны ў раскраданьні ў асабліва буйных памерах. Пасьля арышту на прадпрыемстве была праведзена рэвізія, якая выявіла шэраг парушэньняў заканадаўства. Ахвярамі недабрасумленнасьці былога кіраўніцтва КБМ сталі і некаторыя кліенты прадпрыемства, якія ў свой час заплацілі грошы за заказаныя будматэрыялы, але па розных прычынах да гэтага часу частку свайго заказу не атрымалі. Сёньня мы друкуем ліст аднаго з такіх людзей, які зьвярнуўся па дапамогу ў «Пагоню», а таксама пункт гледжаньня новага кіраўніцтва камбіната.**

## ГЭТА БЫЎ НАТУРАЛЬНЫ «МММ»

**Пракаментаваць сутнасьць узьнятай праблемы згадзіўся сп.Лучына, які выконвае зараз абавязкі дырэктара КБМ.**

**- Леанід Аляксандравіч, як можна ахарактарызаваць дзеяньні былога кіраўніцтва КБМ, якое брала грошы за будматэрыялы, якія не былі яшчэ выпушчаныя?**

- Гэта быў натуральны «МММ». Кіраўнікі розных ворганаў на прадпрыемстве падпісвалі дакументы на атрыманьне дэфіцытных тады будаўнічых матэрыялаў, стварылі дзікую чаргу, парушалі заканадаўства. У канцы 1992 года колькасьць аплочаных будматэрыялаў перавышала колькасьць выпушчаных на некалькі месяцаў наперад. Таму ў загадах на выдачу не абгаворваліся тэрміны вывазу ці дамовы аб часовым захаваньні.

З другога боку, калі грошы пачалі імкліва абясцэньвацца, пачаўся сапраўдны бум па ўкладу сродкаў у будматэрыялы. Грошы на КБМ несьлі як у банк, але забіраць прадукцыю сьпяшаліся ня ўсе. Заплаціўшы ў краме за каўбасу сёньня, вы ж ня пойдзеце забіраць яе праз месяц? А да нас прыходзілі і праз месяц, і праз год, і, нават, праз тры!

**- Тым ня менш, пазыку трэба аддаваць...**

- Камбінат яе і аддаваў. Прычым па старых коштах. Так, у сьнежні 1993 года мы зьмясцілі у «Гродзенскай праўдзе» абвестку, у якой паведамлялі, што да 15 студзеня 1994 года ўсе жадаючыя могуць атрымаць запазычаныя будматэрыялы па старых коштах. Пасьля 15 студзеня быў праведзены пераразьлік. Дык вось, толькі на працягу тэрміну, пазначанага ў газеце, вяртаючы запазыку, камбінат згубіў больш 700 мільёнаў рублёў, бо кошты на тыя ж пліты, цэглу вырасьлі ў шмат разоў.

Праведзеная пасьля арышту сп.Закрэўскага рэвізія выявіла, што выдача запазычаных матэрыялаў прыносіць вялізныя выдаткі. Сёньня, каб аддаць запазыку, трэба выдаткаваць дзесяткі мільярдаў рублёў! А гэта самым істотным чынам адаб'ецца на заробнай плаце нашых рабочых. Працаваць сабе на страту я не магу і не хачу. Зараз мы выйшлі на плюсавую рэнтабельнасьць і адкатвацца назад не зьбіраемся.

**- І таму выдача запазычаных пліт спынілася. На якой падставе?**

- Я прыняў такое рашэньне на падставе актаў рэвізіі і існуючага заканадаўства.

**- На што, у такім выпадку, можна разьлічваць людзям, якія сёньня патрабуюць свае будматэрыялы ці кампенсацыю ўкладзеных грошай?**

- Па жаданьню заказчыка мы можам вярнуць з улікам дэнамінацыі тыя грошы, якія людзі ўнесьлі ў момант аплаты заказу (калі вы заплацілі ў 1992 годзе за пліту 2 тысячы «зайцоў», то атрымаеце зараз дзьвесьце рублёў - аўт.). У адваротным выпадку толькі суд зможа прымусіць нас вярнуць будматэрыялы, ня вывезеныя па віне заказчыка.

**- Леанід Аляксандравіч, як Вы глядзіце на гэтую сітуацыю з чыста чалавечага пункту гледжаньня?**

- Людзей, вядома, можна зразумець. Яны панесьлі страты, часам, немалыя. Аднак зазначу - усе, каму будматэрыялы былі жыцьцёва неабходныя, леглі касьцьмі, але вывезьлі свае блокі, пліты і г.д. А сярод тых, хто не зрабіў гэта, большасьць проста жадае зараз нагрэць рукі на розьніцы коштаў 1992 і 1995 года.

## КАЛІ ГЭТА БЫЎ «МММ», ТО СПРАВА ПАХНЕ КРЫМІНАЛЬНЫМ ЗЛАЧЫНСТВАМ...

**За каментарам да гэтай сітуацыі «Пагоня» зьвярнулася таксама да загадчыка юрыдычнай кансультацыі Кастрычніцкага раёну сп.Міхаіла Лугачова.**

**- Сп.Лугачоў, як часта людзі трапляюць сёньня ў аналагічныя сітуацыі?**

- Даволі часта. Назаву самы тыповы прыклад: людзі ўнесьлі сродкі на кааператыўнае будаўніцтва, а яго зараз замарозілі. Вось і прыходзіцца ці забіраць зьедзеныя інфляцыяй грошы, ці даплочваць новыя мільёны без гарантыі, што і яны не прападуць.

**- На што можна спадзявацца людзям, трапіўшым у такую вось сітуацыю на КБМе?**

- Калі пацьвердзяцца ўсе факты, выкладзеныя ў лісьце сп.Рыпы, г.зн. будзе ўстаноўлена, што тавар быў аплочаны, але не атрыманы па віне камбіната, то гэтыя людзі маюць усе падставы спадзявацца на вяртаньне сваіх будматэрыялаў праз суд. Тым больш, калі суд установіць, што гэта сапраўды быў «МММ», то гэта ўжо пахне крымінальным злачынствам. Пацярпелым жа ад злачынстваў людзям страты вяртаюцца цалкам.

**- Як у такім выпадку Вы пракаментуеце пазіцыю новага кіраўніцтва камбіната?**

- Разьлічвацца за чужыя памылкі нікому ня хочацца. Тым больш, калі гэта сапраўды істотна адбіваецца на прыбытках КБМа і заробнай плаце рабочых. Але, калі прадпрыемства ўсё ж такі ў свой час сапраўды нанесла матэрыяльныя страты сваім кліентам, то яно павінна за іх усё роўна разьлічыцца, вярнуўшы запазычаныя матэрыялы.

**В.РУДНІК.**

# ДУРДОМ - ЁН ПАЎСЮЛЬ ДУРДОМ

**Насоўваецца чарговая падвышка коштаў на газеты. З гэтай прычыны частка грамадзкасьці абураецца паводзінамі жыручых журналістаў, раўняючы іх са славутай наменклатурай. На самой справе ўсё ня так. Напрыклад, «Гродзенская праўда», як паведаміў яе рэдактар І.Багіна, у гэтым годзе заплаціць адзін мільярд рублёў падаткаў, і мільярд гэты, вядома ж, будзе ўзяты з кішэняў чытачоў.**

У сваю чаргу дзяржава ўтрымлівае 17 у вобласьці і 100 у рэспубліцы абсалютна стратных раённых газет, прычым трымае іх у «чорным целе»: зарплата рэдактара раёнкі 490 тысяч рублёў. Калі да гэтага дадаць, што над дзяржаўнымі СМІ вісіць зампалітаўская цэнзура і пастаянная пагроза звальненьня, атрымаецца поўная карціна «чацьвёртай улады».

Яшчэ ёсьць і незалежная прэса. Але яе праблемы, па-першае, вартыя асобнага разгляду, па-другое - і так ва ўсіх на відавоку.

Нядаўна адбылася канферэнцыя абласнога Саюзу журналістаў Беларусі, на якой былі абраны дэлегаты на рэспубліканскі зьезд Саюзу. Канферэнцыя зазначыла, што гэты зьезд (адбудзецца 18 кастрычніка), магчыма, будзе апошнім. Многіх пужае тое, што ўжо працуе альтэрнатыўная Саюзу асацыяцыя незалежных журналістаў, якая разваліць цяперашні Саюз. Дарэчы, у нашых суседзяў у Летуве ёсьць, здаецца, тры журналісцкіх саюзы: былы афіцыйны, незалежны і каталіцкі. І ўсе неяк выжываюць. За аренду памяшканьняў плацяць у тэрмін ды кампутары набываюць. Усё залежыць ад уменьня працаваць...

А праца наша такая: прыбытак абласнога Саюзу журналістаў, як паінфармаваў яго адказны сакратар М.Горлаў, у гэтым годзе складзе 2 мільёны рублёў, 70% з якіх пойдуць на ўшанаваньне (і пахаваньне...) ветэранаў журналістыкі. Рэспубліканскі Саюз выдаў кнігу на дзьвюх мовах, якая, на жаль, не пайшла, хаця сярод аўтараў і Васіль Быкаў, і іншыя залатыя пёры... У такіх выпадках «не до жиру, быть бы живу».

Адзначана, што беларускай журналістыкай вельмі цікавіцца Нямеччына, таму на нямецкія інвестыцыі пакладаюцца вельмі вялікія надзеі. Дарэчы, палова (!) сродкаў масавай інфармацыі Польшчы трымаецца за кошт заходніх інвестараў. Палякі хутка прымаюць законы, каб абмежаваць гэты паказальнік да 30%, таму што вядома - хто плоціць, той і музыку... У нас гэты нумар наўрад ці пройдзе, таму што лукашэнкаўскай камандзе не патрэбны незалежныя газеты. Л.Валэньсе, мяркую, яны таксама не патрэбны, аднак ён не перашкаджае пранікненьню на газетна-эфірны рынак немцаў, французаў ды іншых.

А пакуль Саюз журналістаў Беларусі ўваходзіць у канфедэрацыю журналістаў СНД, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Маскве. Тут вось які фокус: Расея выйшла з гэтай канфедэрацыі, іншыя рэспублікі таксама выйшлі, а засталася ў ёй Беларусь ды Сярэдняя Азія. Дурдом - ён паўсюль дурдом.

**А.ЛАПЦЕЎ.**

# ЦІ «АБАРОНА НАРОДУ» ЯГО АБАРАНЯЕ?

**У апошнія гады ў многіх дзяржаўных установах зьявіліся аддзелы з вельмі гучнай назвай «Абарона народу». Такі аддзел цяпер існуе і ў Гарадзенскім абласным ваенкамаце, які носіць назву «Абарона народа і выхаваньне». Начальнік яго - палкоўнік М.Е.Будзько. А ці разам са сваім штатам ён абараняе народ? Не. Вось вам прыклад.**

Наша ветэранская арганізацыя Скідальскага гарадзкога Савету дэпутатаў зьвярнулася з заявай у Савет Міністраў РБ з такім пытаньнем: «Ці будуць непаўналетнія юнакі апошняга ваеннага прызыву, а гэта 1944 год, прыраўнаваныя да ўдзельнікаў вайны, як гэта зроблена ў іншых краінах СНД». Ім прыйшлося «адбахаць» у арміі па сем гадоў тэрміновай службы.

З Савету Міністраў РБ заява перакачавала ў Міністэрства Абароны, а адтуль у аддзел «Абароны народа і выхаваньня» Гарадзенскага аблваенкамату. І што? Можа М.Е.Будзько са сваімі падначаленымі чытаў заяву? Калі меркаваць па адказу, відаць, што не. Вось што ён напісаў у адказе N 1932 ад 18 лістапада 1994 года: «У абласным ваенкамаце няма інфармацыі аб тым, што ваеннаслужачыя пасьляваеннага прызыву будуць ураўнаваны ў правах ды льготах з ветэранамі вайны». Падкрэсьліваю, што гаворка ў заяве ішла аб апошнім ваенным прызыве, а М.Е.Будзько піша аб пасьляваенным. Вось як загадчык аддзела са сваёй камандай абараняе інтарэсы народу.

Атрымаўшы абсурдную адпіску, я наведаў Мікалая Емяльянавіча. І што ж, ён папрасіў прабачэньня? Нічога падобнага. Стаў плесьці абы што, каб апраўдацца.

У сакавіку бягучага года разам з пеньсіянерам А.Ф.Жуком мы наведалі чарговы раз аддзел М.Е.Будзько. Але ж вынік ад наведваньня аблваенкамату, як і першы раз, быў нулявы. Трэці раз наведваць гэты аддзел з гучнай назвай жаданьня ў нас ужо ня будзе.

Што ж абараняюць ваенкамацкія чыноўнікі? Не інакш, як свой бюракратычны стыль працы.

**Ільля БАРЫСАЎ,**
**Старшыня ветэранскай арганізацыі Скідальскага гарсавету дэпутатаў.**

## СЕМ ЛЕПЕЙ ЗА ШЭСЬЦЬ

**Сёлета многія бацькі ў Берасьці вырашылі адправіць сваіх дзяцей у школу не з шасьці год, а з сямі.**

З-за гэтага школы горада страцілі 50 працэнтаў першакласьнікаў. Затое шмат хто з іх, бадай, ня страцілі здароўя ад заўчасных для іх узросту школьных перагрузак.

## ДЗІЦЯ ЗНАЙШЛІ НА ВУЛІЦЫ

**У Кобрыне на гарадзкім аўтобусным прыпынку сярод белага дня была знойдзена дзяўчынка без бацькоў і блізкіх.**

З ёю былі толькі дзьве сумкі з лахманамі, а да грудзей прышпілена цыдулка з імем і датай нараджэньня дзяўчынкі: 24.01.1990. Адкуль яна родам і як сюды трапіла - толкам дзіця так і не змагло адказаць. Пасьля абсьледаваньня ў дзіцячай бальніцы, мясцовыя ўлады вырашылі аформіць Алёну Рамановіч у Кобрынскі дзіцячы дом для дзяцей-сірот.

**ЯГОРЫК.**





# СУМЕЖЖА

## МЫ ЎСТУПІЛІ Ў ЭПОХУ БЕЛАРУСАФОБІІ

### НАТАТКІ З IV ЗЬЕЗДУ ТБМ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

**6 кастрычніка ў менскім Доме літаратара прайшоў IV зьезд Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Адкрыў зьезд старшыня ТБМ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Месца ў прэзыдыуме занялі паважаныя людзі: намесьнікі старшыні Зьміцер Сянько, Яўген Цумараў, Сяргей Запрудзкі, а таксама Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб, віцэпрэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, намесьнік міністра культуры і друку Іван Карэнда, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч. М.Грыб зьвярнуўся да зьезду з прывітальным словам. Стоячы пад бел-чырвона-белым сьцягам, ён гаварыў пра цяжкія рэаліі і змрочныя перспэктывы беларускай нацыі.**

Атмасьферай беларусафобіі назваў сітуацыю ў краіне Ніл Гілевіч. У прыватнасьці, ён сказаў, што пасьля трэцяга зьезду ТБМ сітуацыя была больш-менш спрыяльнай. Беларускія патрыёты радаваліся посьпехам, хоць і невялікім, у выкананьні Закона аб мовах і недаацанілі антыпатрыятычных сілаў, якія зусім ня думалі мірыцца з такім разьвіцьцём падзей, з курсам на беларусізацыю Беларусі. Праз некаторы час пасьля кашмарнай для іх другой паловы 1991 года яны апамяталіся, што яшчэ ня ўсё страчана, дакладней, нічога ня страчана, пачалі гуртавацца і актыўна супрацьдзейнічаць нацыянальна-адраджэнцкаму беларускаму руху. Гэта стала відавочна, калі большасьць парламанту пайшла на паваду ў рэтраградзкіх антыбеларускіх сілаў. Адчуўшы смак першага посьпеху з набліжэньнем прыняцьця Канстытуцыі, яны настойліва загаварылі пра наданьне рускай мове статуса дзяржаўнай. Але гэтая авантура ім не ўдалася. Было б памылкай думаць, што тыя, хто сьцяной стаіць за двухмоўе, не разумее, што гэта значыць для беларускай мовы. Для іх ясна, што калі ня ўдасца зьнішчыць беларускую мову, то ня ўдасца спыніць адраджэньне, ня ўдасца паставіць крыж на суверэннай Беларусі, ператварыць яе ў паўночна-заходнюю губерню. Тое, што так цяжка давесьці да розуму і сэрца беларуса, ворагам Беларушчыны даводзіць ня трэба. Яны выдатна разумеюць: памрэ мова, памрэ народ, перастане існаваць беларуская нацыя.

Таму нельга верыць, што барацьбіты за дзяржаўнае двухмоўе змагаюцца за расейскую мову. Яны змагаюцца супраць мовы беларускай.

Ніл Гілевіч акрэсьліў тры кірункі дзейнасьці Таварыства.

«1. Абарона нашай мовы ад самое існаваньне народа. Будзем памятаць, што тут нам апорай служыць і закон аб мове, і Канстытуцыя. У нас не адабралі правы на родную мову. Проста зьмянілася сітуацыя. Давядзецца працаваць па-іншаму, падаваць у суды, абіваць парогі, таму што ніхто гэтага за нас ня зробіць.

2. Абарона роднай мовы ад непісьменнасьці і бескультур'я. Такой жахлівай непісьменнасьці на радыё і тэлебачаньні не было раней ніколі, а ў друку ніводнага артыкула супраць яе.

3. Выхаваньне пашаны і любові да роднага слова, прапаганда яго дзівоснага харastва і цудоўнай сілы. Больш як хто гэта робіць нашае настаўніцтва».

Найбольш радыкальны выхад з сітуацыі, як заўсёды, прапанаваў лідар БНФ Зянон Пазьняк. Ён бачыць найбольш эфектыўны шлях да адраджэньня роднай мовы праз «адстаўку Аляксандра Рыгоравіча».

У дзесятках іншых эмацыянальных і прагматычных выступаў гучалі клопат і боль за мову, народ і Беларусь.

Складана праходзілі выбары Старшыні Рэспубліканскай рады ТБМ. З вялікай цяжкасьцю зьезд угаварыў Ніла Гілевіча заняць гэтую пасаду яшчэ на адзін тэрмін.

Была абраная Рэспубліканская рада Таварыства з 49 чалавек. У Радзе Шушкевіч, Пазьняк, Бутэвіч, Краўчанка і іншыя. Ад Гарадзенскай вобласьці ў Раду ўвайшлі Павел Сьцяцко і Аляксей Пяткевіч з Гарадзенскага універсітэту, Міхась Мельнік і Станіслаў Суднік з Ліды, Павел Марціноўскі з Зэльвы. Дарэчы, дэлегацыя Гарадзенскай вобласьці налічвала 21 чалавек і была самай шматлікай з усіх абласных арганізацый.

Зьезд прыняў пастанову і шэраг адозваў.

Калі паспрабаваць ахарактарызаваць атмасьферу зьезду ў некалькіх словах, то гэта клопат і занепакоенасьць, але не адчай і безвыходнасьць. Асноўнае, што можна было вынесьці са зьезду, - жыве беларуская мова і жыве Беларусь!

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## СТАЛІЦА «УСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ» - У ЛЬВОВЕ

**Больш трох гадоў дзейнічае ў Львове таварыства «Усходняя Эўропа», створанае па ініцыятыве ўкраінскай моладзі. Асноўнымі мэтамі арганізацыі зьяўляюцца стварэньне адпаведных умоваў для пашырэньня ідэй нацыянальнай сьвядомасьці, дэмакратыі, талерантнасьці, узаемнай пашаны паміж народамі Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.**

Ужо зараз таварыства шчыльна супрацоўнічае з аналагічнымі аб'яднаньнямі моладзі ў суседніх краінах: польскім «Памостам», «Маладымі дэмакратамі Румыніі», Маладзёжнай арганізацыяй БНФ, Кансерватыўнай партыяй Летувы ды іншымі арганізацыямі, якія падтрымліваюць ідэю супрацоўніцтва ў Міжмор'і.

Дзейнасьць таварыства мае шырокую падтрымку з боку такіх вядомых украінскіх палітыкаў, як Іван Драч, Вячаслаў Чарнавіл, Міхайла Горын, Ігар Дзяркач ды інш., а таксама з боку Эўрапейскай камісіі па правах чалавека.

Пры таварыстве існуе Бюро інфармацыі, якое выдае Бюлетэнь Таварыства. У бліжэйшых планах - стварэньне Цэнтру міжнароднага маладзёжнага супрацоўніцтва, якое будзе займацца вырашэньнем ды папулярызацыяй самых разнастайных праблемаў моладзі Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**

## НА РУІНАХ ПЕРШЫМ ВЫРАСТАЕ ЗЕЛЬЛЕ...

**Як зрабіць менш балючым пераход грамадзтва ад таталітарнага рэжыму да дэмакратычнага грамадзтва, рынкавых рэформаў? Якая роля ў гэтым працэсе грамадзкіх арганізацый, кожнага з нас? Чаму першымі ў посткамуністычным вакууме з'арыентаваліся зусім ня тыя людзі, якія змагаліся з гэтым рэжымам?**

Гэтыя і іншыя пытаньні разглядаліся на міжнароднай канферэнцыі «Грамадзянскія правы і абавязкі ў пабудове мясцовай дэмакратыі», якая прайшла на пачатку кастрычніка ў польскім горадзе Мелец. У канферэнцыі бралі ўдзел дэлегацыі з Польшчы, Ірландыі, Нямеччыны, Славакіі, Украіны і Беларусі. У склад дэлегацыі нашай краіны ўваходзілі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацый дэмакратычнага накірунку з усіх вабласцей. Гарадзеншчыну прадстаўлялі сябры аргкамітэту Аб'яднаньня маладых навукоўцаў, а таксама сябры грамадзкіх утварэньняў з Ваўкавыску і Слоніму.

**Вітольд ЖЭШОЎСКІ.**

## У БЕРАСЬЦІ РАСЕЙСКІЯ «КОРОБЕЙНИКИ» СПРАБАВАЛІ ПАРАЛІЗАВАЦЬ РУХ ЦЯГНІКОЎ

**7 кастрычніка ў Берасьці на чыгуначным вакзале адбыўся інцыдэнт паміж беларускай міліцыяй і 60 расейскімі грамадзянамі, якія ехалі з Польшчы ў цягніку «Варшава - Растоў-на-Дану».**

Справа ў тым, што расейцы адмовіліся заплаціць мытны падатак за тавары, якія ўвозілі з-за мяжы. А калі вагон, у якім яны ехалі, быў адчэплены, расейскія «коробейники» заблакавалі чыгуначны шляхі, перашкаджаючы руху цягнікоў. Спробы беларускай міліцыі вырашыць канфлікт мірным шляхам не прынесьлі посьпеху, таму супрацоўнікі праваахоўных органаў былі змушаны вызваляць чыгуначныя шляхі з дапамогай гумовых дубінак. У выніку, рух цягнікоў быў узноўлены, а парушальнікі адпраўлены на радзіму цягніком «Берасьце-Масква».

**СІМ**

## БЕЛАРУСЫ - САМЫЯ БАГАТЫЯ Ў СЬВЕЦЕ ЛЮДЗІ

**Не сумняюся, што чытач спытае: «Як зразумець сэнс назвы гэтага артыкула?» Паспрабую растлумачыць. У любой краіне сьвету, якая жыве нармальна, сярод насельніцтва ёсьць людзі бедныя, сярэдняга дастатку, багатыя і вельмі багатыя. Вызначыць, да якой з названых груп насельніцтва належыць канкрэтны чалавек можна, па-першае, па месцу яго жыхарства (для кожнага ўзроўню даходу сям'і - свае кварталы ў заходніх гарадах з адпаведнымі даходу платай за жыльлё і ўзроўнем сэрвісу); па-другое, па таму, у якіх крамах дадзены грамадзянін купляе тавары для асабістага карыстаньня. Бо ў разьвітых краінах аднолькавы па сутнасьці тавар можна купіць як па вельмі нізкай, так і па вельмі высокай цане, у залежнасьці ад таго, у якой краме яго купляць. Звычайна, якасьць, надзейнасьць, далгавечнасьць тавару ў залежнасьці ад кошту бываюць рознымі. Але часам, істотна не адрозьніваюцца. Тым ня менш, чалавек з высокім узроўнем даходу зазвычай не купляе тавар у танных крамах з-за простага прынцыпу: калі чалавек сам сябе недаацэньвае, то іншыя ня будуць яго цаніць.**

Магчыма, кіруючыся такім прынцыпам, сёньняшняе кіраўніцтва Беларусі зрабіла нашу рэспубліку суцэльнай «крамай для багатых». Мяркуйце самі: нашы бліжэйшыя суседзі палякі, летувісы і інш. могуць пайсьці ў краму і купіць кілаграм цукру за 0,5-0,7 долара, літр расьліннага алею - за 1 долар, сьвінога сала - за 0,8 долара, сасіскі - за 1,6 долара і г.д. А жыхар Беларусі купляе цукар па цане 1 долар, расьлінны алей - 1,5 долара, сала - 1,5-2 долара, сасіскі - 3 долары. Атрымліваецца, што народ Беларусі - самы багаты народ Эўропы, калі «ня хоча» хадзіць у танныя крамы пры сярэднім заробку ажно... 50 долараў! Адзін мой знаёмы з Нямеччыны неяк сказаў: «У Эўропе вельмі цэняць і часта спажываюць марскую рыбу, яна нават даражэй за мяса». А я, пачуўшы гэта, падумаў: «А можа ў Эўропе мяса таньней за рыбу?» Па сутнасьці, так яно і ёсьць. Сабекошт вытворчасьці мяса і мясапрадуктаў на Захадзе ніжэй, чым у нас.

Як так атрымалася, што грамадзяне нашай рэспублікі сталі «самымі багатымі людзьмі Эўропы» па пакупнай неабходнасьці пры мінімальным заробку менш 6 долараў у месяц? Як можа выжыць народ пры такіх мізэрных даходах і такіх, набліжаных да сусьветных, коштах? Куды мы ідзем? Мяркую - да спусташэньня рэспублікі. І чорговым крокам да гэтага спусташэньня зьявіўся факт заключэньня Беларусьсю мытнага саюзу з Расеяй і Указ Прэзідэнта РБ N 300 ад 16.08.95 г. Мэта гэтага добрага намеру - выхад беларускіх тавараў на расейскі рынак - сталася толькі ценем вялікага правалу беларускай эканомікі за кошт гэтага ж рашэньня.

Давайце памяркуем. Расея - аграмадная краіна з дастаткова разьвітай прамысловасьцю і неабсяжнымі сельскагаспадарчымі прасторамі. Уявім, што Расея выпускае (вытварае, вырошчвае і г.д.) тысячы найменьняў тавараў. Насельніцтва ў Беларусі ў 15 разоў менш, чым у Расеі, а паводле тэрыторыі наша краіна ў 82 разы менш за Расею. Улічваючы пры гэтым 70-гадовае сумеснае эканамічнае разьвіцьцё і высокую сьпецыялізацыю народнай гаспадаркі рэспублік колішняга СССР, Беларусь прадукуе, прынамсі, у 2-10 разоў менш найменьняў тавараў, чым Расея. А гэта значыць, што Беларусь вырабляе толькі 100-500 найменьняў тавараў супраць 1000 найменьняў расейскіх тавараў. Вырабляючы ўмоўных 1000 найменьняў тавараў, Расея ўсе іх абараняе мытнымі пошлінамі і ПДК (падатак на дабаўлены кошт). Уваходзячы ў адзіны мытны саюз, Беларусь вымушана абараняць акрамя ўласна вырабляемых 100-500 найменьняў тавараў дадаткова 500-900 тавараў, вырабляемых толькі ў Расеі. Што гэта азначае? А вось што: у Беларусі няма ўласнай экспартнай нафты, газу, жалезнай і іншых руд, марской рыбы, гарбаты (краснадарскай), цытрусавых (сочынскіх), пшаніцы, легкавых аўтамабіляў і г.д. Уводзячы на сваёй тэрыторыі расейскія мытныя пошліны на тавары, якіх у нас няма, мы змусілі Беларусь купляць такія ж тавары выключна ў Расеі. Вядома, купляць можна і ў іншых краінах, але тады кошт гэтых тавараў для першага пакупніка ўзрасьце на 25-50%. Спаганяемая з дапамогай мытных пошлін і ПДК сума ідзе ў казну дзяржавы. А камерцыйным (у тым ліку дзяржаўна-камерцыйным) структурам Беларусі атрымліваецца нявыгадна ўвозіць гэтыя тавары з другіх краін, акрамя Расеі. Усё гэта было б добра, калі б не было так дрэнна.

Уявіце сабе, што вы - уладальнік ці дырэктар завода ў Расеі. Вы ведаеце, што маеце тавар, які вельмі неабходны для Беларусі (гарбату, марскую рыбу, нафту і г.д.). Вы ведаеце аб адзінай мытнай прасторы з пакуль яшчэ замежнай дзяржавай. Ведаеце памеры падаткаў пры ўвозе аналагічнага тавару з-за мяжы. Вось вы і адгрузіце свой тавар Беларусі па цане вышэй за адпускную на ўнутраным рынку на 18-48%, усё роўна возьмуць, нікуды не падзенуцца, бо кошт ніжэй, чым пры ўвозе з іншых краін. Куды з Беларусі пойдуць гэтыя лішнія 18-48% кошту тавараў? Правільна! З кішэні беларускага спажыўца ( з вас, мяне) у кішэню расейскага вытворцы. І крыўдаваць за гэта на расейцаў і Расею ня трэба. Бо гэтым расейскім вытворцам можа апынуцца беларус, які пражывае ў Расеі ці, нават, ваш родны брат.

Мы самі (нашыя бацькі-кіраўнікі) захацелі тое, што маем пасьля 26 жніўня 1995 года. А зараз тыя самыя нашы бацькі-кіраўнікі гавораць пра другі этап мытнага саюзу, пра ўзгадненьне цэнаў. Але, на жаль для нас, Расея будуе звычайную рыначную эканоміку з рыначнымі коштамі, а не разьмеркавальны сацыялізм. А мы ў дадзеным выпадку па ўласнай ініцыятыве падпісалі дамову аб каланіяльнай залежнасьці ад Расеі, і да сярэдзіны 1996 года з дапамогай апісанага вышэй механізму Беларусь спустошыцца трэці раз (пасьля двух Кебічаўскіх спусташэньняў), і, верагодна, канчаткова, спыніўшы сваё нядоўгае суверэннае існаваньне.

А народу сутнасьць таго, што адбудзецца, зноў патлумачаць сталым клопатам пра яго ж, народу, дабрабыт. Як была нядаўна патлумачана небясьпека для эканомікі Беларусі сітуацыі, калі некаторыя грамадзяне рэспублікі езьдзілі ў краіны Заходняй Эўропы купляць легкавыя аўтамабілі з мэтай перапродажу ў Расеі. Валюта пры гэтым ішла з Расеі ў Беларусь. Праўда, у большасьці выпадкаў, у прыватныя кішэні. Але кожная краіна багатая багацьцем уласных грамадзян. Такая сітуацыя была вельмі нявыгадная па вядомым прычынам Расеі. З уваходам Беларусі ў адзіную мытную прастору, гэтая праблема для Расеі была цалкам вырашана. Зараз зьявіўся галаўны боль у беларускага абывацеля: «Дзе набыць танны аўтамабіль?» А ехаць трэба за ім у Расею. Плынь валюты пры гэтым пайшла з Беларусі ў Расею. Дзе ж зараз мы будзем зарабляць валюту? Прададзім свой тавар у Расеі? Менавіта гэта мелася на ўвазе нашымі кіраўнікамі, пры фарсаваньні ўваходжаньня ў адзіную мытную зону. Аднак, справа ўскладнілася. Расея пасьля распаду СССР была змушана наладжваць выпуск тавараў, якія раней атрымлівала з іншых рэгіёнаў па дамовах, і дасягнула посьпеху ў гэтым. Беларускія тавары на расейскім рынку працягваюць быць малаканкурэнтназдольнымі ў першую чаргу з-за высокага сабекошту, на які накладаюцца вельмі высокія транспартныя выдаткі (да Масквы ці Санкт-Пецярбургу па 1000 км). Дзе выйсьце?

Зусім ня важна, якой нацыянальнасьці любы чалавек і ў Расеі, і ў Беларусі. Нашай краіне гістарычна наканавана суседнічаць з Расеяй, таму мы павінны жыць у згодзе. Але ў кожнай краіны, як і ў кожнай сям'і, свае эканамічныя інтарэсы. І гэтыя інтарэсы трэба паважаць. Для Рэспублікі Беларусь у перыяд крызісу яе эканомікі патрэбна індывідуальнае мытнае і падаткавае заканадаўства для таго, каб запусьціць сваю прамысловасьць, пазначыць канкрэтныя экспартныя варыянты, дамагчыся росту валавога прадукту, спыненьня зьбядненьня народу, а ўжо потым ствараць эканамічныя саюзы. Нельга воз ставіць сьпераду каня, бо ён усё роўна не паедзе.



"Штучная мяжа".

Спадзяюся, што грамадзяне Беларусі ў лістападзе 1995 года нарэшце ўсьвядомяць, што толькі ўласнай працай можна зарабіць на кавалак хлеба з маслам. Што толькі прыняўшы актыўны ўдзел у выбарах, і прагаласаваўшы не за абяцанкі асобы, а за канкрэтную пазіцыю канкрэтнай партыі ці руху, можна спадзявацца на паляпшэньне жыцьця ў сваёй краіне. Як казаў знакаміты філосаф Гегель : «Кожны народ варты свайго ўраду».

Наш народ, кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь 29 лістапада 1995 года проста павінен выказаць сваё меркаваньне на выбарах. Тады, можа, мы знойдзем сябе, вызначым будучыню нашых дзяцей. А якая яна будзе -залежыць ад кожнага з нас.

**Франц МАМУЛЬ.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**







# ПАД КІПЦЮРАМІ ІЛЬВІЦЫ

## ЗЛАЯ ЛЕГЕНДА НОВАГА ЗАМКУ

**Зусім нядаўна па Горадні пайшлі чуткі, што Новы замак, дзе знаходзіцца Гарадзенскі гістарычны музей, часткова будзе аддадзены пад разьмяшчэньне прэзідэнцкай вертыкалі. У хуткім часе пагалоскі пацьвердзіліся. Цяпер зноў віруюць чуткі, што, акрамя кабінетаў, у левым крыле замку або флігелі будзе гасьцініца - прэзідэнцкія апартаменты. Частка пабудоў стане недаступнай з боку замкавага двара. Сёньня над упрыгожваньнем апартаментаў рупліва працуюць рабочыя трэста N 30. Безумоўна, прэзідэнт павінен мець прыстойнае месца для жыцьця ў горадзе, куды, дарэчы, ён нарэшце зьбіраецца прыехаць. Але ці адпаведнае месца выбрана пад апартаменты? Рэч нават ня ў тым, што Новы замак - помнік гісторыі і архітэктуры, які павінен быць даступным для агляду як беларускім, так і замежным гасьцям горада. З такімі дробязямі ў нас даўно (прынамсі, у апошні год) ня лічацца. Справа ў іншым: гэтая пабудова мае ня вельмі добрую гістарычную рэпутацыю.**

Новы замак быў пабудаваны ў 1734-1755 гадах па загаду караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III. Горадня ў той час была адным з цэнтраў, дзе адбываліся паседжаньні сеймаў Рэчы Паспалітай, а каралю ў горадзе не знайшлося належных апартаментаў. Стары замак быў мала ўтульны. Пэўна, ужо імя фундатара вызначыла на стагоддзі лёс замку і паклала на яго адбітак. Аўгуст III увайшоў у гісторыю Рэчы Паспалітай як правіцель, які давёў да глыбокага палітычнага і эканамічнага крызісу сваю дзяржаву. У час яго праўленьня амаль ня дзейнічалі сеймы, сваволіла шляхта, а чужаземцы, гаворачы словамі Энгельса, зрабілі з Рэчы Паспалітай заезны двор і карчму.

Наступным жыхаром Новага замку стаў сумна вядомы кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі - апошні кароль Рэчы Паспалітай. Менавіта тут, у Новым замку, у 1793 годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай, па якому частка Беларусі - цэнтральная - была далучана да Расейскай імперыі. Неўзабаве ў Новым замку адбыўся яшчэ адзін акт, які паклаў наступную цагліну ў нядобрую рэпутацыю пабудовы - тут Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў адрачэньне ад прастолу. Некаторы час замак быў фактычна турмой апошняга караля.

Пасьля вышэй згаданых гістарычных падзей цалкам добра кладзецца на лёс Новага замку тое, што, як гавораць сучасьнікі, яго больш, чым губернатарскі палац (былы палац Тызенгаўза) любіў Мураўёў-вешальнік. Тут ён таксама меў апартаменты, як і яго папярэднікі. Было гэта ў 30-я гады мінулага стагоддзя, калі Мураўёў служыў на пасадзе гарадзенскага губернатара і «ўціхамірваў», як вядома, паўстаньне. Мураўёў увайшоў у гісторыю Беларусі з рэпутацыяй пахавальніка нашай волі, мовы, культуры.

Нешчасьлівым аказаўся лёс яшчэ аднаго ўладара, які абраў для свайго пражываньня Новы замак у Горадні. На пачатку стагоддзя тут бавіў час Пётр Сталыпін, забіты пазьней у Кіеве. Нешчасьлівае наканаваньне Новага замку зрабіла яго домам пакуты і жалобы ў часы Першай сусьветнай вайны - тут быў уладкаваны ваенны шпіталь. Невядома, колькі няшчасных параненых сканала тут у пакутах, якія стогны і праклёны чулі сьцены Новага замку. Шпіталь разьмяшчаўся ў замку аж да Другой сусьветнай вайны.

У час Вялікай Айчыннай вайны будынак быў моцна пашкоджаны, яго забрала партыя, адбудаваўшы баракальную некалі пабудову ў стылі моднага тады сталінскага класіцызму. Варта згадаць, што ў савецкія часы там таксама былі апартаменты для партыйных кіраўнікоў са сталіц. Менавіта ў іх часам спыняўся, пэўна, ня ведаючы пра злое наканаваньне замку, Пётр Міронавіч Машэраў, чыё жыцьцё абарвалося так трагічна.



*Гарадзенская ільвіца.*

Як папярэджаньне тым, хто хоча ўладкавацца ў Новым замку, нашыя продкі-дойліды паставілі на ўезьдзе браму са скульптурамі жанчын-ільвіц. Юзэф Ядкоўскі, заснавальнік Гарадзенскага музея, у сваёй кнізе «Гродна» апавядае, што скульптуры гэтыя - выявы жанчын-людажэрак, якія, згодна паданьню, ноччу пераўтвараліся ў ільвіц і зьядалі сваіх дзяцей. Толькі адзін хлопчык, сеўшы на плечы драпежніцы, здолеў выратавацца ад сьмерці.

У кожнага беларускага замку ёсьць свая легенда. Цікава, як упішацца ў легенду гарадзенскага Новага замку першы беларускі прэзідэнт? І ці ня лепей было б не даваць шанца паўтарыцца злому наканаваньню гэтага месца, а ўспомніць колішнюю пастанову Гарадзенскага гарвыканкаму аб перадачы партыйнай маёмасьці культурным установам і пакінуць памяшканьне музею?

**С.КУЛЬ.**

# КАРОТКІ ЎСПАМІН ПРА СТОЛІНСКАЕ АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ 1956 ГОДА

**Нацыянальна-вызвольная рэвалюцыя ў Вугоршчыне (кастрычнік 1956 г.) выклікала рэзкую актывізацыю антысавецкага падпольля на Беларусі. Ізноў у лясах зьявіліся партызанскія аддзелы, якія спрабавалі ўзьняць беларускае сялянства на антыкамуністычнае паўстаньне.**

У кастрычніку-лістападзе 1956 г. выбухнула сялянскае паўстаньне на Століншчыне. Калі да беларускага Палесься дайшлі весткі пра вугорскую рэвалюцыю, каля Плотніцы пачалася супрацькалгасная акцыя сялян-палешукоў. Яны разабралі з калгасных фермаў коней ды кароў, а таксама падзялілі паміж сабой калгасны інвентар. Старшыня калгасу, што спрабаваў перашкодзіць «разворовыванию общественной собственности», быў утоплены ў возеры.

Толькі праз пяць дзён у вёску прыбылі карнікі на чале з пракурорам Тарасевічам. Было арыштавана 140 чалавек. Трох паўстанцаў бальшавікі засудзілі на сьмерць і расстралялі. Астатнія атрымалі ад 10 да 25 гадоў лагеру.

Напрыканцы 1956 года ў ваколіцах Менску дзеяла моцная антыкамуністычная партызанка. Партызаны атакавалі малыя аддзелы савецкай арміі і транспарт з прадуктамі і амуніцыяй. Пры гэтым яны атрымоўвалі ўсялякую падтрымку насельніцтва.

Аднак, напрыканцы 1957 г. у Заходняй Беларусі была праведзеная буйная супраць-партызанская акцыя, у выніку якой партызанскія аддзелы былі прыціснутыя да польска-беларускай мяжы й на пачатку 1958 года перайшлі яе. Далейшы іх лёс невядомы.

**Ян ВЕЖАН.**

# ЧАС ЗЬБІРАЦЬ ІМЁНЫ

**Падчас паўстаньня 1863 года лідзкі павет стаў арэнай гераічнага змаганьня беларускага народу супраць расейскага прыгнёту. Уся зямля лідчыны была пазначана бясконцымі магіламі змагароў за незалежнасьць. Савецкія манкурты рабілі ўсё магчымае, каб сьцерці прозьвішчы герояў і іх імёны з памяці людзей. Бульдозерам і плугам руйнаваліся магілы, каб пасеяць на іх кукурузу.**

Сёлета на адной з ацалеўшых магіл паўстанцаў патрыятычная грамадзкасьць Ліды паставіла памятныя крыжы, але ніхто ня можа назваць пакуль імёны тых, хто пахаваны тут. І, наогул, імёнаў вядома ня шмат. Людвік Нарбут, Навіцкі (магчыма Кастусь) - кіраўнікі атрадаў. І ўсё. Але вось спадар І.Бельскі згадвае ксяндза Адама Фалькоўскага, і яшчэ адно імя яркай зоркай узгараецца на небасхіле беларускай гісторыі. Ксёндз Адам Фалькоўскі не вадзіў паўстанцкіх атрадаў. Знаходзячыся ў Лідзе, ён быў цэнтральнай фігурай паўстанцкага руху ў павеце, каардынатарам дзеяньняў разрозьненых сілаў паўстанцаў. Ён з амбона фарнага касьцёла зачытаў маніфест паўстаньня. Цераз яго ішла інфармацыя, людзі, грошы.

Пасьля разгрому паўстаньня прыйшоў час расправы над яго кіраўнікамі і ўдзельнікамі. Ксёндз Адам Фалькоўскі быў расстраляны і пахаваны ў Лідзе. Магіла была зраўняна з зямлёю і па азіяцкаму звычаю конная сотня туды і назад прагарцавала па магіле. Але людзі зрокава пазначылі месца і ноччу на магіле зьявіліся кветкі. Расейцы выкінулі іх, але так паўтаралася з ночы ў ноч. Тады быў пастаўлены вартавы. Зараз месца вядома прыблізна. Да 1939 года імя Адама Фалькоўскага насіла сучасная вуліца Перамогі.

Што ж, дадамо да імёнаў Нарбута і Навіцкага імя Фалькоўскага. Хто наступны?

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

# НАВАТ ТАДЫ, КАЛІ Ў СССР БЫЎ РОСКВІТ ШПІЁНАМАНІІ, І МЫ ЖЫЛІ ЗА ЖАЛЕЗНАЮ ЗАСЛОНАЮ, БАЛЁНЫ З ЛЮДЗЬМІ НА БОРЦЕ НЕ ЗЬБІВАЛІ

**1937 год, позьняя восень. Я пачаў вучобу ў пятай класе польскай школы паўшэхнай (сямігодкі). Аднойчы ў класу заходзіць дырэктар Гародзяйскай школы пан Зюс і кажа, каб мы зьбіраліся на станцыю (вакзал), лекцыі наступнае ня будзе, бо ідзём сустракаць пасажырскі цягнік, якім вяртаецца на Радзіму польскі лятун, які ўдзельнічаў у спаборніцтвах імя Гардон-Бэнета на дальнасьць палёту чалавека ў кошыку балёна.**

Прыйшлі на вакзал, а там ужо аркестра пажарнай аховы ў начышчаных касках, музычны інструмант зіхаціць. Надыходзіць цягнік, аркестра грае марш, мы бяжым да кандуктара (тады праваднікоў у кожным вагоне не было), пытаем: "Дзе лятун, які вяртаецца з Расіі?" Нам сказалі, і мы бегма панесьліся да таго вагона, бо цягнік жа стаіць нядоўга. А нам так цікава пабачыць таго чалавека, які на балёне даляцеў з Польшчы аж у Сібір, трапіў у лапы бальшавікоў, і яны яго выпусьцілі жывым. Лятун гэты стаяў ля адкрытага вакна. Настрой у яго быў не найлепшы, але на пытаньні адказваў. Казаў ён, што прызямляцца павінен быў у лесе, ці тайзе, далёка ад людзей, таму амаль не замёрз, пакуль знайшоў чалавечае жыльлё. А нас цікавіла, як там, у тым самым Саюзе людзі жывуць, як ставіліся да яго, як да замежнага грамадзяніна. Але цягнік стаяў 3, мо 5 хвілін і даў сьвісток адпраўленьня. Лятун той, прозьвішча якога я зараз ужо ня памятаю, адказаў вяла, мабыць мы яму перашкаджалі адпачываць пасьля пагранічных фармальнасьцей ў Негарэлым і Стаўбцах ( бо тады ў Стаўбцах трэба было рабіць перасадку з цягніка савецкага на цягнік эўрапейскай шырыні калеі), але пасьпеў нам сказаць, што людзі жывуць усюды, і што ён ня ведае пакуль, ці ён дасягнуў рэкорду, г. зн. ці даляцеў далей за ўсіх астатніх. Цягнік пайшоў далей, а мы, адзінаццаці-дванаццацігодкі ішлі назад у школу і абмяркоўвалі пытаньні, якія не пасьпелі задаць летуну.

І тады мы зразумелі, што самае галоўнае пытаньне мы не задалі, а менавіта: ці пералёт польска-савецкай граніцы быў запланаваны, ці гэта вецер зьмяніўся пад час спаборніцтваў і пагнаў балёны ў накірунку СССР. Самыя «адукаваныя», якія слухалі радыё, і бацькі якіх чыталі газеты, былі ўпэўненыя, што бальшавікі не дазволілі б чужым летунам пралятаць над рускімі гарадамі і аэрадромамі, чыгуначнымі станцыямі і заводамі, таму накірунак палёту ў бок Уралу ня мог быць запланаваным. Напэўна летуны павінны былі ляцець на поўдзень, у бок Румыніі, Балгарыі і Грэцыі, а зьменлівы вецер пагнаў балёны ў бок Менску і Масквы. Як там было на самой справе, мы так і не даведаліся, але сёньня паўстае іншае пытаньне: чаму тады, ў 1937 годзе летуноў на балёнах не зьбівалі ні зенітнай артылерыяй, ні самалётамі-зьнішчальнікамі (истребителями)? Мабыць тады, каб адкрыць агонь па паветранаму аб'екту, трэба было атрымаць дазвол адказнай асобы ці то ў Менску, ці, нават, у Маскве. І тады, калі амаль кожнаму паляку «прышывалі» шпіёнскі артыкул карнага кодэкса, польскага летуна на балёне зьбіваць ня сталі.

А зараз якую пагрозу нёс балён з людзьмі беларускай дзяржаве? Няўжо ж лятун пагранічнага верталёта вырашыў, што ў кошыку для экіпажу ляжаць бомбы? Не, хутчэй за ўсё ахоўнікі граніцы баяліся, што з кошыка на нашую зямлю пасыплюцца ўлёткі супраць прэзідэнта. Ён жа так часта падкрэсьліваў апошнім часам варожасьць Захаду да яго рэжыму. І страйк працаўнікоў метрапалітэну справакаваў Захад, амаль што амерыканскія сьпецслужбы, і апазіцыі памагае Захад ледзь не мільярдамі долараў, і на прэзідэнта націскаюць, каб не сябраваў з Расеяю. Карацей - Захад - галоўны вораг краіны, якая па-ранейшаму будуе сацыялізм. Бі заходніх правакатараў! Вось і зьбілі, каб другія баяліся. Толькі ці пойдуць да нас пасьля заходнія інвестары? Ці ня будзем мы пасьля такіх падзей і надалей варыцца ў собскім соке? А тады ўжо прыдзецца ня рынкавы сацыялізм будаваць, а сталінскі. Толькі вось што насьцярожвае: нават сталінскія сокалы балёны з людзьмі не зьбівалі!

А былы міністр замежных спраў Пятро Краўчанка казаў нядаўна, што слабы той рэжым, які стварае сабе вобраз ворага, і папярэджваў, што закончыцца гэтая гульня ў ворагаў дрэнна. Не паслухалі! Мо самы час апамятацца і прызнаць, што ня ўсе ў Беларусі думаюць так, як таварыш Замяталін, дый не павінны думаць. Бо для Замяталіна Беларусь - не Радзіма. Мо пара задумацца, ці зрабіў бы такі крок, які ганьбіць нашу Радзіму, генерал, кіраўнік супрацьпаветранай абароны, калі б ён быў па паходжаньні беларусам і яму залежала на гонары, міжнароднай павазе да яго роднай краіны. А так усюды на кіруючых пасадах «варягі». А таварыш Замяталін кажа ў тэлевізійных навінах, што «ворагі». А па ворагам трэба страляць, зьнішчаць іх. Толькі ці лепш нам будзе пасля такіх стрэлаў? Мо прэзідэнту пара адумацца і ўсьвядоміць, што зараз ён ужо не палітрук, які заклікае роту да штурму варожых бліндажоў. А то элітныя часткі Беларусі змагаюцца не з сапраўднымі ворагамі, не з арганізаванай злачыннасьцю, а з апазіцыяй ў парламаньце, забастоўшчыкамі, а супрацьпаветраная абарона «усіх славян» зьбівае людзей у кошыку балёна, які не ўяўляў аніякай пагрозы для нашай дзяржавы.

А там, дзе з Захаду ня робяць ворага, такія балёны не зьбіваюць. Прыклад? Калі ласка: балён, які з Беларусі вецер пагнаў на Украіну - ніхто не абстрэльваў. Мабыць там не баяліся, што ў кошыку балёна ўлёткі супраць Кучмы, ці мільёны долараў для «Руху». «Не сотворите себе врага, лучше жить будете!»

**Аляксандр БАХАНЧЫК.**

